# 21 студзеня споунілася 16 год з дня смерці Владзіміра Ільіча Леніна

*Помніце, любіце, вывучайце Ільіча, нашага настаўніка, нашага правадыра.*

*Змагайцеся і перамагайце ворагаў, унутраных і знешніх,—па Ільічу.*

*Будуйце новае жыццё, новы быт, новую культуру,—па Ільічу.*

*Ніколі не адмаўляйцеся ад малога ў рабоце, бо з малога будуецца вялікае,—у гэтым адзін з важных заветаў Ільіча.*

*І. СТАЛІН.*




*(Запісана са слоў хатняй гаспадыні Наторавай)*

Да нас на завод прыязджае Ленін. Мне крычаць:

— Наторава, ты прымеш паліто!

У клубе горача. Ленін пачаў гаварыць. Скінуў паліто на стул. Я схапіла— ды ў гардэробную. Бачу, у левай палы сярэдняга гузіка няма. Я ад сваёй жакеткі адарвала гузік ды на ленінскае паліто і прышыла тоўстым нумарам, каб надоўга. Ён паехаў, не заўважыў. А гузік крыху не такі. І так мне гэта прыемна, а нікому не адкрываю свой сакрэт.

Тут досыць многа часу прайшло. Іду па Ліцейнаму, а ў фатаграфіі «Фенікс», у акне партрэт павялічаны Леніна. Паліто на ім тое самае. Я ўважлівей прыглядаюся, а гузік-то той самы—мой гузік.

Ён у гэту-ж зіму і памёр. Я дастала ў фатаграфіі на Ліцейным заветны партрэт.

Ён у мяне каля люстэрка ў раме цяпер.

Кожны дзень падыйду, пагляджу ды паплачу.

А гузік-то мой прышыты...

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ
ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
Студзень 1940 г. № 1

*А. І. Ульянава*

# ДЗІЦЯЧЫЯ І ШКОЛЬНЫЯ ГОДЫ ІЛЬІЧА

Раздзел першы

Наш правадыр Владзімір Ільіч Ульянаў (Ленін) нарадзіўся 10 (23) красавіка 1870 г. на Волзе, у горадзе Сімбірску, перайменаваным цяпер у гонар яго на Ульянаўск.



Сімбірск (зараз Ульянаўск) 70-х гадоў XIX в.

Бацька Владзіміра Ільіча, Ілья Нікалаевіч, быў тады інспектарам народных вучылішч Сімбірскай губерні. Ён паходзіў з простага саслоўя, рана застаўся без бацькі і толькі пры дапамозе старэйшага брата з вялікімі цяжкасцямі мог атрымаць адукацыю. Пасля сканчэння універсітэта ён быў спачатку настаўнікам у Пензе і Ніжнім. Вучні вельмі любілі яго, бо ён ніколі не караў іх, не скардзіўся на іх дырэктару, цярпліва і вельмі зразумела растлумачваў ім урокі і займаўся бясплатна па нядзелях з тымі, хто не паспяваў, каму дома ніхто растлумачыць не мог. І цяпер яшчэ некаторыя былыя вучні яго, старыя-старыя людзі, з любоўю і ўдзячнасцю ўспамінаюць яго. У Сімбірску ён стараўся адкрыць як мага больш школ для беднаты, для сялянскіх дзяцей і, не шкадуючы сіл і працы, зусім не шкадуючы сябе, ва ўсякае надвор'е ездзіў для гэтага па губерні.

Маці Владзіміра Ільіча, Марыя Александраўна, была дачкою ўрача, большую частку юнацтва правяла на вёсцы, дзе сяляне вельмі паважалі яе. Яна была добрая музыкантша, добра ведала музыку і мовы—французскую, нямецкую і англійскую—і вучыла гэтаму дзяцей. Яна не любіла вялікіх зборышчаў і забаў, праводзіла амаль увесь час дома з дзецьмі, якія вельмі любілі і паважалі яе. Даволі ёй было сказаць ім што-небудзь спакойным, пяшчотным голасам, каб яны паслухаліся. Ілья Нікалаевіч любіў праводзіць свой вольны час таксама ў сям'і, займаючыся з дзецьмі або гуляючы з імі, расказваючы ім што-небудзь.

Сям'я, у якой вырас Владзімір Ільіч, была вельмі дружная. Ён быў трэцім з дзяцей, вельмі шумлівым—вялікім крыкуном, з бойкімі, вясёлымі карымі вочкамі.

Бойкі і шумлівы ўсюды, Валодзя моцна крычыць і на параходзе, куды ўся сям'я забралася, каб ехаць на лета ў вёску Казанскай губерні.

— На параходзе няможна так моцна крычаць,—кажа яму мама.

— А параход-жа і сам моцна крычыць,—адказвае не задумваючыся і таксама моцна Валодзя.

З цацкамі ён мала гуляў, больш ламаў іх. Паколькі мы, старэйшыя, стараліся ўтрымаць яго ад гэтага, то ён часамі хаваўся ад нас. Памятаю, як аднойчы, у дзень яго нараджэння, ён, атрымаўшы падарунак ад няні—запрэжаную ў сані



Сям'я Ульянавых у Сімбірску.



тройку коней з пап'е-машэ, кудысьці падазрона знік з новаю цацкаю. Мы пачалі шукаць яго і знайшлі за аднымі дзвярмі. Ён стаяў ціха і ўважліва круціў каню ногі, пакуль яны не адвальваліся адна за другою.

### Раздзел другі

Чытаць Валодзя навучыўся ад маці гадоў пяці. І ён і сястра Оля, якая навучылася адначасова з ім, вельмі палюбілі чытанне і ахвотна чыталі дзіцячыя кнігі і журналы, якіх многа атрымліваў наш бацька.

Пачалі яны неўзабаве чытаць і апавяданні з рускай гісторыі, завучвалі напамяць вершы. Гэта любіла, аднак, больш Оля, якая ведала многа доўгіх і цяжкіх вершаў і надта выразна гаварыла іх напамяць.



Уладзімір Ільіч і Ольга Ільінічна Ульянавы. 1874 г.

Любімым вершам Валодзі, калі яму было год сем-восем, была «Песня бабыля», і ён з вялікім азартам і задорам дэкламаваў:

Багацею-ду-р-ню
З казною не спіцца,—
Бядняк гол, як сакол,
Пяе, весяліцца.

Напэўна, яна яму па душы прышлася. Асабліва любімых кніг у Уладзіміра Ільіча ў дзяцінстве не было. Ён ахвотна чытаў журнал «Дзіцячае чытанне». Начытаўшыся, ён бег з сястрою гуляць, прычым любіў больш, як было ўжо сказана, шумлівыя, рухавыя гульні. Улетку яны беглі на двор, у сад, лазілі на дрэвы, гулялі разам з намі, двума старэйшымі, у «чорную палачку» (цяпер гэта гульня называецца, здаецца, «палачкай-застукалачкай»). Валодзя вельмі любіў гэтую гульню, а пазней—кракет. Узімку катаўся на санках з гары, якую рабілі ў нас на двары, і гуляў з таварышамі ў снежкі, а пазней пачаў катацца на каньках.

Памятаю, як на грамадскім катку, які рабілі ў Сімбірску, ён і старэйшы брат Саша каталіся на каньках з высокіх гор, з якіх і на санках спачатку жудасна было ляцець—такія яны былі крутыя. Сагнуцца спачатку ў тры пагібелі на верхняй, самай крутой частцы гары, потым паступова выпроствающца і доўга-доўга едуць па раскату ўжо ва ўвесь рост. Я толькі з зайздрасцю пазірала на іх, а зрабіць, як яны, не адважвалася. Пры гэтым Валодзю, па-мойму, катацца было лягчэй, чым Сашу: ён быў невялікага росту, каранасты такі, моцны. Але на каньках Валодзя катаўся, вядома, пазней, гімназістам.

Як ужо было сказана, Валодзя быў вялікім свавольнікам і балаўніком, але яго добрай рысай была праўдзівасць: насваволіць і заўсёды прызнаецца. Так, ва ўзросце пяці год ён зламаў раз у старэйшай сястры лінейку-поўаршын, падзеленую на вяршкі і поўвяршкі [1], якую яна толькі што перад тым атрымала ў падарунак. Ён сам прыбег са зламанаю лінейкаю сказаць ёй аб гэтым; а калі яна запыталася, як гэта здарылася, сказаў: «Аб каленку зламаў», паднімаючы нагу і паказваючы, як гэта адбылося.

— Добра, што ён не робіць нічога цішком,—казала маці.

Аднойчы, між іншым, яна расказала, што і гэты грэх здарыўся. Яна чысціла на кухні яблыкі для пірага; кучка яблычных скурак ляжала на стале. Валодзя круціўся тут-жа і папрасіў скурак. Маці сказала, што скуркі не ядуць. У гэты час хтосьці заняў яе; калі яна павярнулася зноў да сваёй работы, Валодзі ў кухні ўжо не было. Яна выглянула ў садок і ўбачыла, што Валодзя сядзіць там, а перад ім, на садовым століку, ляжыць кучка яблычных скурак, якія ён хуценька есць. Калі маці пачала сароміць яго, ён расплакаўся і сказаў, што больш так рабіць не будзе.

— І сапраўды,—казала маці,—ён больш нічога цішком не браў.

Другі раз, калі яму было восем год, ён

[1] Тагачасная мера даўжыні.

утаіў адну сваю бяду. Яго ўзяў бацька разам з старэйшымі ўпершыню ў Казань, каб ехаць адтуль у вёску Кокушкіна, да цёці. У Казані, на кватэры цёці, ён, разбегаўшыся і разгуляўшыся з роднымі і стрыечнымі братамі і сёстрамі, штурхануў незнарок маленькі столік, з якога скінуўся на падлогу і ўшчэнт разбіўся шкляны графін. У пакой увайшла цёця.

— Хто пабіў графін, дзеці?—запытала яна.

— Не я, не я,—гаварыў кожны.

— Не я,—сказаў і Валодзя.

Ён спалохаўся прызнацца перад маланзнаёмай цёцяй, у чужой кватэры; яму, самаму малодшаму з нас, цяжка было сказаць: «я», калі ўсе астатнія гаварылі лёгкае: «не я». Атрымалася такім чынам, што графін сам разбіўся. Прайшло два ці тры месяцы. Валодзя даўно паехаў ужо з Кокушкіна і жыў зноў у Сімбірску. І вось аднойчы вечарам, калі дзеці паляглі ўжо і маці, абыходзячы нанач іх ложкі, падышла і да Валодзінага, ён раптам расплакаўся.

— Я цёцю Аню ашукаў,—сказаў ён, усхліпваючы:—я сказаў, што не я разбіў графін, а гэта-ж я яго разбіў.

Маці супакоіла яго, сказаўшы, што напіша цёці Ані і што яна напэўна даруе яму.

А Валодзя паказаў гэтым, што ён не церпіць хлусні, што хоць ён схлусіў, спалохаўшыся прызнацца ў чужым доме, але не мог супакоіцца, пакуль не прызнаўся.

#### Раздзел трэці

У гімназію Валодзя паступіў, калі яму было дзевяць з паловаю год, у першы клас.



Дом Ульянавых у Сімбірску, на Ленінскай вуліцы (былушай Маскоўскай), у якім жыў В. І. Ленін з 1878 г. па 1887 г.

Вучыўся ён лёгка і ахвотна. Здольнасці ў яго былі добрыя, ды і бацька прывучаў яго, як і старэйшых брата з сястрою, да ўседлівасці і да дакладнага і ўважлівага выканання заданага. Яшчэ, памятаю, настаўнікі яго гаварылі, што Валодзю вельмі дапамагае тое, што ён заўсёды ўважліва слухае тлумачэнне ўрока ў класе. Пры сваіх выдатных здольнасцях, ён запамінаў новы ўрок звычайна ў класе, і яму прыходзілася толькі крыху паўтарыць яго дома. І таму толькі, бывала, пачнецца вечар, і мы, старэйшыя, раскладземся са сваімі работамі ў сталовай, на вялікім стале, пры агульнай лямпе, як выяўляецца, што Валодзя вывучыў ужо ўрокі і лапоча, сваволіць, падражнівае меншых і перашкаджае нам.

Валодзя любіў спяваць; слух і здольнасці да музыкі ў яго былі добрыя. Але і тут ён не заўсёды ўціхамірваўся. Меншы брат, Міця, ва ўзросце трох—пяці год, быў вельмі жаласлівы і ніяк не мог даспяваць без слёз «Козліка». Яго стараліся прывучыць, угаварвалі. Але як толькі ён набярэцца мужнасці і стараецца праспяваць, не міргнуўшы вокам, усе сумныя месцы, як Валодзя паварачваецца да яго і з асаблівым націскам, зрабіўшы страшны твар, спявае: «Напа-алі на ко-озліка шэрыя воўкі...»

Міця трымаецца з усёй сілы. Але свавольнік не ўнімаецца і яшчэ з больш трагічным выглядам, выпрабоўваючы брата, спявае: «Пакі-інулі ба-абцы ро-ожкі, ды но-ожкі», пакуль малы, не вытрымліваючы, заліваецца струменямі слёз. Памятаю, што я сварылася з-за гэтага з Валодзем, абураючыся, што ён дражніць маленькага.

#### Раздзел чацверты

Калі бацька быў дома, ён прыходзіў звычайна на выручку да нас, старэйшых, вёў Валодзю да сябе ў кабінет і правяраў яго ўрокі. Але звычайна Валодзя ведаў усё. Тады бацька пачынаў запытваць у яго старыя лацінскія словы па ўсім сшытку. Але Валодзя адказваў і іх без запінкі. І калі ў бацькі не было вольнага часу заняць яго чым-небудзь іншым,



напрыклад, шахматамі, то цішыня ў сталовай устанаўлялася не надоўга.

Валодзя гуляў у шахматы з бацькам, з братам Сашам. Мы, дзяўчаты, гулялі менш. Памятаю толькі адну восень, калі мы ўсе—бацька і мы, трое старэйшых,—вельмі захапляліся чацвернымі шахматамі і праседжвалі за імі позна вечарамі. Але калі пачаліся рэгулярныя заняткі, прышлося, зразумела, кінуць гэтую гульню, якая звычайна вельмі зацягвалася.

Адносячыся да ўсяго сур'ёзна, Валодзя і шахматную гульню пачаў вывучаць, як і старэйшы брат, па дапаможніках і пазней гуляў вельмі добра. Гульня гэтая ўпрыгожвала для яго часта вымушанае жыццё ў вёсцы, у правінцыі, а пасля—у ссылцы і ў эміграцыі. Гімназістам-жа ён вельмі любіў гуляць у шахматы з Сашам. І не толькі ў шахматы. Ён любіў гуляць ва ўсё, у што гуляў Саша, рабіць усё, што рабіў Саша. Ён вельмі любіў свайго старэйшага брата і падражаў яму ва ўсім, да дробязей. Аб чым, бывала, не запытаюць Валодзю: як хоча ён гуляць, ці пойдзе ён на прагулку, з маслам ці з малаком пакласці яму кашы за сталом,—ён не адкажа адразу, а глядзіць на Сашу. А той знарок марудзіць з адказам, хітра паглядаючы на брата. І мы абодва пасмейваемся з яго. Але і насмешкі не адвучалі Валодзю, і ён адказваў: «Як Саша». Паколькі Саша быў на рэдкасць сур'ёзны, удумлівы хлопчык і строга адносіўся да сваіх абавязкаў, то падражанне яму было вельмі карысна для Валодзі: ён бачыў заўсёды перад сабою прыклад удумлівасці, дасканалага і ўважлівага выканання заданага. Валодзя быў з дзяцінства ўспыльчывым, і прыклад Сашы, яго заўсёдашняй роўнасці і вялікай вытрыманасці, меў для астатніх дзяцей, у тым ліку—і асабліва—для Валодзі, вялікае значэнне. Спачатку падражаючы старэйшаму брату, Валодзя потым і свядома пачаў змагацца з гэтым недахопам, і пазней у юнацкія яго годы, мы зусім—ці бадай што зусім—не заўважалі ў ім успыльчывасці. Такую самую барацьбу з сабою і работу над сабою бачым мы ў ім і ў адносінах развіцця ў сабе працаздольнасці. Хаця мы і казалі, што ён адносіўся ўважліва да выканання ўсіх сваіх заданняў і вучыўся вельмі добра, але пры яго выдатных здольнасцях гэта ўсё-ж не складала для яго амаль што ніякіх цяжкасцей—не трэба было напружвацца, выпрацоўваць у сабе працаздольнасць.

Адносячыся надзвычай свядома і строга да сябе і да ўсяго акружаючага, Валодзя сам заўважыў у сабе гэты недахоп і, прыслухоўваючыся аднойчы да бясконцых, асабліва цярплівых практыкаванняў на раялі сястры Олі, сказаў мне: «Вось чыёй працаздольнасці можна пазайздросціць». І ён пачаў выпрацоўваць у сабе працаздольнасць, якая зрабілася выдатнай ужо ў яго маладыя годы,—у годы, калі ён канчаў універсітэт,—і якой усе мы проста былі здзіўлены, калі ён стаў дарослым чалавекам.

Яму ў дзяцінстве была чужой хвальба, важнічанне, гэтыя непрыемныя ўласцівасці, якія ён не цярпеў у пазнейшыя годы, ад якіх перасцерагаў моладзь у сваёй прамове на III з'ездзе комсамола.

Праўда, і бацька наш вельмі не любіў хвальбы і, не гледзячы на тое, што ўсіх нас заўсёды адзначалі ў школе—і асабліва Валодзю,—нікога не хваліў, а, радуючыся нашым поспехам, стараўся заахвочваць нас на большыя.

(*Працяг у наступным нумары*)




***ДЖАМБУЛ***

Я з гор бірузовых, я з жоўтых стэпоў
К табе у маўзалей, як вандроўнік,
прышоў.
Жалобна схіліліся з крэпам сцягі,
Але, як жывы, ты ляжыш, дарагі.
З табою, як з бацькам, гаворыць
Джамбул,
І кроў маладзее, ў ёй чуецца гул.



Я сэрцам ў цішы, як дамрою, звінеў
На самай высокай і чыстай струне.
Стаіць маўзалей пасяродку зямлі—
Народы, як рэчкі, к табе пацяклі.
Ідуць і туркмен, і узбек, і казах,
Каб воблік твой бачыць бяссмертны ў
вяках,
Каб слова сыноўе лагодна сказаць,
Каб моцную клятву табе прашаптаць.
І слова тваё мы у сэрцы нясём,
Для нас яно—промень,
Для ворага—гром.
Высока узнята цана тваіх слоў,
Як кроплі вады між пустынных пяскоў.







Мудрэйшы з усіх!
Ты, як сонца, гарэў,
Ты сонечным сэрцам планету сагрэў.
Мільёнам, хто ў горы і беднасці жыў,
Ты шлях да вялікага шчасця адкрыў.
Памёр ты,—і асірацела зямля...
Ды ўспыхнулі зоры на вежах Крэмля,
Ды чуем мы ночы і дні напралёт,
Што б'ецца магутнае сэрца тваё.
На радасць народам,
На шчасце зямлі
Жыве твой наследнік ў Маскоўскім
Крэмлі.
Ён мудры, адважны. Ён горны арол.
Як ты, перамогі ён творыць вакол.
На крыллях магутных, як зорку з нябёс,
Ён яснае шчасце народам прынёс.
Я дзецям і ўнукам, і праўнукам ўраз,
Як самы старэйшы, пакіну наказ:
Вучыцеся ў мудрага Леніна жыць,
Народ да апошняга ўздыха любіць.
Умейце ўсе мыслі, пачуцці сабраць,
Умейце ўсе сілы і волю аддаць.
Таму, каго Ленін, як друга, цаніў,
Таму, каго Ленін, як брата, любіў.
Таму каго Сталіным свет ўвесь заве,
Ў кім сонечны ленінскі геній жыве.





Пераклаў *Р. Казак.*





Н. К. Крупская

# З пісьма да дзесяціголдзя піонерскай арганізацыі

Комсамольцы гатовяць сябе да таго, каб стаць дастойнымі членамі партыі, комсамол—гэта змена, комсамольцы вучацца быць загартаванымі, стойкімі. А піонеры—гэта змена комсамола. Ім трэба многа папрацаваць над сабой, каб стаць свядомымі, стойкімі, смелымі. Калі піонерам гавораць партыйцы, комсамольцы, важатыя: «Да барацьбы за рабочую справу будзь гатоў!», піонеры адказваюць: «Заўсёды гатоў!» Але сказаць лёгка, зрабіць—многа трудней. Трэба строга выконваць пастановы арганізацыі ва ўсім, нават у дробязях. Піонеры не здароваюцца за руку, а аддаюць салют. Так пастаноўлена.

Аднойчы, у 1924 г., быў вялікі піонерскі сход у Доме саюзаў, у Калонным зале. Уваходжу я. Ля дзвярэй стаіць піонер; я, па старой прывычцы, хачу паздаровацца з ім за руку. Ён паднімае руку для салюта і гаворыць: «Мы, піонеры, рукі не падаем, мы аддаем салют». Да чаго я была рада, што выконвае ён пастановы!

Расказваў мне рабочы адзін. Бачыць ён раз, у лесе сабраліся ля кастра піонеры, ажыўлена аб нечым гавораць. Рабочаму захацелася пагутарыць з імі. Ён падышоў і пачаў з рэбятамі гутарыць, курыў пры гэтым. Тады ўстаў адзін піонер і гаворыць: «Таварыш, мы, піонеры, не курым і другіх просім у нашай прысутнасці не курыць».—«Нялоўка мне зрабілася,—расказваў рабочы.—Кінуў я папяроску ў агонь. Думаю, бадай, праўда, кінуць курыць, ды цяжкавата».

«Малайцы рэбяты», падумаў я.

Праўда, не заўсёды так лёгка і проста выконваць тое, што пастаноўлена.

Часта трэба мець многа волі, многа вытрымкі, каб выконваць тое, што пастаноўлена. Але калі ў чалавека няма волі, яго лёгка збіць са шляху. Вось Ленін быў чалавек вялікай волі. Ён расказваў, як у школьныя годы пастаянна прыходзілася браць сябе ў рукі. Ён вельмі добра вучыўся, але гэта нялёгка давалася. Напрыклад, Ільіч вельмі любіў катацца на каньках, але ўбачыў ён, што перашкаджае гэта вучобе, кінуў. Ён вельмі любіў чытаць. Але і тут браў сябе ў рукі. Ляжыць цікавая кніга, але не возьмецца за яе, пакуль урокаў не зробіць. І выпрацаваў у сябе Ленін цвёрдую сілу волі. На яго слова можна было палажыцца.

Папрабаваў ён неяк курыць. Убачыла яго маці, што ён курыць, засмуцілася, папрасіла яго: «Валодзюшка, не куры». Владзімір Ільіч вельмі любіў маці і паабяцаў ёй не курыць. І ўсё жыццё не дакрануўся ні разу да папяроскі.

Трэба за сабой сачыць кожнаму піонеру, выпрацоўваць у сябе характар. Чалавек, у якога слова разыходзіцца са справай, нікуды не гадзіцца. Ён лёгка можа тады пайсці на паваду ва ўсякага нягодніка, здрадзіць справе, за якую ён змагаецца.

Трэба піонеру многа вучыцца. Калі мала ведае чалавек, яго лёгка абмануць. Піонерам трэба многа вучыцца і ў школе, і па-за школай. Ільіч пастаянна гаварыў рабочым: без ведаў рабочы клас бяссільны, з ведамі—ён сіла. Працоўныя нашай Краіны Советаў гэта ведаюць; таму вучацца не толькі рэбята, але і дарослыя, нават старыя.

Трэба вучыцца і дапамагаць адзін другому ў вучобе.

# Хлопец Хачо

*(З армянскай народнай творчасці)*

— Хлопец Хачо,
Голы Хачо.
Замест кабы [1], што з дзірак і лат,
Новенькім фрэнчам стаў ты багат.
Хто табе даў?
Хто табе даў?
— Фрэнч новы з радасцю я атрымаў,
Ленін, мне Ленін фрэнч гэты даў,
Ленін!

— Хлопец Хачо,
Бедны Хачо!
Замест дзёртых панчох, не змані,
Боты, вышэй ад кален даўжыні,
Хто табе даў?
Хто табе даў?
— Боты, якіх я раней не насіў,
Ленін, наш Ленін іх мне падарыў,
Ленін!




— Хлопец Хачо,
Таварыш Хачо!
Быў ты маўклівей за ўсіх беднякоў,
Вострую мову тваю, сілу слоў
Хто табе даў?
Хто табе даў?
— Быў батраком я, маўчаў, як у сне.
Ленін даў мову прыгожую мне,
Ленін!



— Таварыш Хачо!
Прафесар Хачо!
Некалі цёмным ты быў батраком.
Кнігі, якімі багаты твой дом,
Хто табе даў?
Хто табе даў?
— Мне, як і многім, хто ў цемры ўзрос,
Ленін вялікі навуку прынёс,
Ленін!

Слаўны Хачо,
Знатны Хачо!
Ты—лепшы калгас на нашым жніве!
«Леніна ордэн» за справы твае
Хто табе даў?
Хто табе даў?
— Гонар і славу цяпер пазнаю,
«Леніна ордэн» за працу маю
Сталін мне даў,
Сталін мне даў,
Сталін!

[1] Каба—верхняе адзенне.



# Флёркавы слёзы

АПАВЯДАННЕ

КУЗЬМА ЧОРНЫ

Рысункі М. СВЯЦКАГА

Тут, дзе канчаліся аўсы і пачынаўся дробны ўзлесак, палявая дарога рабілася зусім вузкая. Яна пазарастала травой, увахОдзіла ў кусты. Коні, якія там пасвіліся, хадзілі і па ёй. Над яе каляінамі расла мяккая сіняватая трава, яна вельмі добра жавалася старымі зубамі гнядога каня. Гняды памахваў сабе хвастом, чухаў аб цвёрдую зямлю свае рыжыя зубы і грыз.

А Флёрка сядзеў зусім блізка пад ядлоўцавым кустом і ад таго, што не было яму чым заняцца, пазвоньваў цуглямі. Трохі раней было весялей. Сам дзядзька Тамаш пасвіў сёння ўвесь калгасны табун, а пры дзядзьку Тамашу заўсёды весела. Чаго ўжо ён не нарасказвае, можна бакі падарваць з рогату, слухаючы гэтага дзядзьку. Паслухаць яго прыбег сюды і Флёрка, разам з усімі іншымі хлапчукамі. Гэта было да паўдня, а цяпер дзядзька Тамаш пагнаў коні дадому: пачыналася работа. А трое коней—дзве жарэбныя кабылы і старога Гнядога—ён пакінуў і сказаў Флёрку паглядзець іх, пакуль ён прышле дзеда Паўла. Кожны дзень дзед Павел вазіў на Гнядым малако ў кааперацыю; Гняды толькі і быў ужо на такіх дробных работах. Ці каму ў млын трэба, ці каму саломы прывезці з калгасных стагоў, ці гліны прывезці з Глінішчаў—толькі на гэта служыў Гняды. Ён ужо адпрацаваў свой малады век і яму цяпер не давалі цяжкай работы.

Разам з Флёркам асталіся тут яшчэ некалькі хлапчукоў, яго аднагодкаў. Яны паразыходзіліся па балоце шукаць птушыных гнёздаў. Знойдуць гняздо, пазабіраюць птушанят, а пасля пакідаюць у траву або ў ваду. А над імі лёталі і плакалі балотныя птушкі. Енчылі па сваіх дзецях кнігаўкі-чубайкі, моцна крычаў у вялікай жальбе бакас, і нейкая жоўценькая даўганосенькая птушка, малая і рухавая, клікала ўсё сваіх загінуўшых дзяцей: «Пі! Пі-і-і!»

А яе дзеці былі блізка, чулі матчын голас, але не маглі абазвацца ёй, бо ўжо цяжка было ім дыхаць: адно з іх сядзела ў цеснай жмені вясёлага Мішкі, а другое задушвалася пад купінай у вадзе. Хлапчукі ўсё хадзілі і хадзілі па вадзе, а Флёрка ўсё сядзеў і сядзеў пад кустом. Яму думалася аб тым, што ўчора бацька набраў корту ў краме і да нядзелі маці пашые яму новую рубашку. А старэйшаму брату Міхалку такую самую рубашку пачалі ўжо шыць. І дзед Павел зараз прыдзе пасвіць коні і тады льга будзе бегаць з усімі па балоце. А цяпер як-жа пакінуць коні? Каб не тыя дзве кабылы, то Гнядога можна было-б пакінуць аднаго, ён нікуды далёка не зайшоў-бы. Гняды ўжо зусім стары конь, гэта кажуць і дзядзька Тамаш, і дзед Павел. Гняды спакойны конь. Ніколі ён не брыкаецца і можна смела пралазіць заўсёды

ў яго між пярэдніх ног, можна на яго ўзлазіць, упіліўшыся за хвост і ўспаўзаючы ўверх па задніх нагах. А ён сабе стаіць ціха і толькі вушамі варушыць.

— Гэты конь спакойны, як свіння,— сказаў быў раз дзядзька Тамаш. І гэта вельмі было спадабалася іхняму Міхалку. Тады Міхалка быў яшчэ меншы.

— Гняды спакойны, як свіння,—сказаў тады раз Міхалка ў гаворцы з сваімі сябрукамі.

І ўвесь той дзень хлопцы дражнілі Міхалку свінячым канём.

— Конь ты свінячы!—гукалі яны на яго.

А ён злаваў і ганяўся за імі. Пра ўсё гэта думалася цяпер Флёрку.

— Ага, ага, ага, ага!—закрычалі на балоце хлопцы.

Флёрка кінуўся ўслед за Гнядым. «Гняды шкоды наробіць»,—закрычаў ён. І бег моцна, і ўсё пагладаў то на Гнядога, то на зайца, што ўжо ледзьве відзен быў за шыпшынавымі кустамі.

— Косенька, Гняды!—крычаў Флёрка.

Конь дабег да канца палетка і стаў. Старыя ногі яго вельмі забалелі і займала дух ад такога перапуджанага бегу.

— Косенька мой, косенька,—крычаў Флёрка і, падбегшы да косенькі, хацеў узяць яго за грыву, а той, напалоханы, пабег далей, стукнуўшы нагою Флёрку. Флёрка ўпаў на мяккую зямлю, але тварам ткнуўся ў нейкую сухую ламачыну, мусіць корань ад нейкага зелля, і рассек сабе твар каля вуха. Моцна яму забалела і пацякла кроў, і ён закрычаў.



Флёрка ўсхапіўся з-пад куста, зазваніў цуглямі і азірнуўся. Па балоце хлопцы гналі двух сабак. Сабакі на ўвесь дух імчаліся, пападтульваўшы хвасты, а хлопцы ўсё гналі ззаду, толькі іржавая вада і чорная гразь пырскала з-пад ног.

Проста на Гнядога беглі сабакі. Гняды падняў галаву, натапырыў вушы і, калі сабакі скочылі яму пад самыя ногі, кінуўся ў аўсы. Гняды даскочыў да куста шыпшыны ў аўсе, а там драмаў заяц. Перапалоханы заяц падскочыў угару пад самай мордай Гнядога; спуджаны Гняды кінуўся ўбок і драпануў аўсамі куды вочы глядзелі.

— Флёрку Гняды забіў!—крыкнулі хлопцы, падбягаючы ўжо зусім блізка.

Флёрка ўсхапіўся, выплюнуў з рота зямлю, абцёр кроў з твару і пабег з крывавай пісягай каля вуха за Гнядым.

Усё таксама плакалі па дзецях балотныя птушкі; перад ім узляталі вароны, а ён бег усё, бег, размазваючы пальцамі кроў каля вуха.

Хлопцы злавілі Гнядога каля рэчкі.

Флёрку дома абмылі твар і абвязалі хусткай. Ён адразу павесялеў і нават пайшоў гуляць на вуліцу. А ўначы яму снілася, што ляжыць ён пасярод двара, а Гняды рве яму твар зубамі. Ён доўга не

мог прачнуцца і доўга так мучыўся ў сне. Прачнуўся ён са злосцю на Гнядога і з нянавісцю да яго. Ён вышаў на вуліцу, а там ужо былі ўсе тыя, што ганялі ўчора па балоце сабак і разбуралі птушыныя гнёзды. Тут быў Варывончыкавых Сцёпка, той самы, што за некалькі дзён да гэтага ўкінуў у студню здохлага крата. Быў і Віцюк Жаброўскіх, майстар выбіваць шыбы ў вокнах. Быў яшчэ і Мішка Казлоўскі, які пазаўчора цвяліўся праз плот з Тамашовым сабакам, не бачачы, што ў плоце паміж каламі дзірка. Сабака выскачыў праз дзірку і адарваў яму зубамі калошу ў портках. Адным словам, цяпер на вуліцы кампанія сабралася не абы якая.

Флёрка падышоў да гэтых хлапцоў. Усе абглядзелі Флёркаў твар, пагаварылі пра ўчарашняе здарэнне. Флёрка расказаў ім пра свой сон. Ён так сказаў: «Мне снілася, што гэты Гняды, каб ён здох, рве мяне зубамі за твар».

— Гэта брыдкі конь, ён вельмі ляны,— сказаў Сцёпка.

— Да работы дык ён ляны, а брыкацца, дык ён майстар,—сказаў Віцюк.

— От ліха ка яго, хадзем дамо яму,— сказаў Мішка.

Усе яны адышліся пад кляны і пачалі шаптацца. А пашаптаўшыся, яны пайшлі ў сад, знялі тры тонкія падпоркі з-пад яблынь і падаліся пад стайню. Дзед Павел толькі што прыехаў на Гнядым з кааперацыі, распрог яго і паставіў да жолаба. Учатырох яны ўвайшлі ў стайню. Флёрка астаўся стаяць каля сцяны, а тыя ўтрох зачынілі дзверы, адцягнулі Гнядога ад жолаба, прывязалі да слупа і пачалі моцна біць яго прутамі. Білі яго па галаве, па рэбрах, па жываце. Гняды кідаўся ва ўсе бакі, рваўся з прывязі, а яны ўсё білі яго.

— За што вы яго б'яцё?!—закрычаў раптам Флёрка, кідаючыся да іх.

Яны паапускалі пруты і спачатку быццам са здзіўленнем глядзелі на Флёрку. Пасля паглядзелі на Гнядога. І яны ўбачылі, што ён сочыць сваімі вялікімі вачыма за кожным іх рухам.

— Косенька мой, косенька,—прагаварыў раптам Флёрка.

— А ён-жа цябе ўчора на зямлю паваліў!—заікаючыся, крыкнуў Мішка.

— Косенька, косенька,—не сціхаў Флёрка, падыходзячы да Гнядога.

Усе ўтрох зноў паглядзелі на каня і зноў убачылі яго вочы. І ім здалося, што гэтыя конскія вочы пранізваюць іх навылёт і ўсюды будуць бачыць іх, дзе-б яны не былі. Яны перавялі свае вочы на Флёрку, а той ужо гладзіў Гнядога па шыі. Саромячыся глядзець адзін аднаму ў вочы, яны, адзін за адным, вышлі з стайні. Яны адразу разбрыліся, хто куды, каб не быць разам.

Флёрка астаўся каля Гнядога. Ён яго паставіў на ранейшае месца пры жолабе, вышаў, набраў свежай канюшыны, паклаў у жолаб і стаў глядзець на яго. Гняды не еў. Флёрка прыўзняўся на пальчыках і пагладзіў Гнядому лоб. Гняды не еў.

Тады Флёрка прытуліўся тварам да белых дошчак новага жолаба і горка заплакаў.



# дзед-мароз

*Александрава*

Йшоў па лесе дзед Мароз
Міма клёнаў і бяроз,
Міма сосен, між гумён
Прабіраўся дзесяць дзён.
Борам, ельнікам шагаў,
Ёлкі ў пацеркі ўбіраў,—
Прыхарошыў дзіўна ўсе
І рэбятам іх нясе.
На палянцы, за ракой,
Свеціць месяц. Супакой...
Водзяць зайцы карагод,
Наступае новы год.
І шагае дзед Мароз,
Цягне цацак поўны воз.
Ён заходзіць ў школу, ў сад.
— Гэта ўсё вось для рэбят.
У гэту-ж ноч, пад новы год,
Ён садзіцца ў самалёт.
Дзецям Гродна дзед Мароз
Цуда-ёлачку прывёз.
А затым сівы дзядок
Курс узяў на Беласток.
З Беластока ў адзін раз
Ён пусціўся на Каўказ.
Там таксама новы год
І дзіцячы карагод.
І павінен дзед там быць,
Дзецям ёлку падарыць.
Так шагае дзед Мароз
Між будынкаў, між бяроз.
Вёскі, школы—не міне,—
Усім падаркі выдае.

Вольны пераклад *А. Бялевіча*



# ЁЛКА

*Рыс. В. Ціхановіча*

Эх, скрыпіць прыемна
Мяккі снег, пушысты.
Сцелецца абрусам
Снегавы прастор.
Я лячу на лыжах
Сваіх рыжых, тонкіх,
Аж дыміцца ззаду
Снегавы віхор.
Быццам-бы брыльянтам,
Ёлкі і хваіны
Раніцой убралі
Вопраткі свае.
І звісаюць шышкі
На густых галінах;
Вецярок ім з поля
Песенькі пяе.
Еду я і бачу:
Між кустоў ялінка
На лясной паляне
Ў інеі стаіць.
І сваёй кашлатай,
Мёрзлаю галінкай
Нешта ціха шэпча,
Серабром мігціць.
Я пад'ехаў блізка
К ёлцы. Зухавата
Ўзяў яе на плечы
І прывёз дамоў.
Пасярод прасторнай,
Светлай сваёй хаты
Ёлачку паставіў
І пазваў сяброў.
Ёлачку старанна
Рыбкамі, сцяжкамі,
Цацкамі ўбралі
Мы галлё кругом.
Радуецца ёлка
Ў хаце разам з намі
Святам урачыстым—
Навагоднім днём.

***Стась Гацубо***





*Праф. Мантэйфель*

# У ПОШУКАХ ШЫШАК

Калі ў лесе здараецца багаты ўраджай яловых шышак, туды прылятае вялікая колькасць клестаў. Гэтыя невялікія, прыгожыя птушкі імкнуцца ў хвойныя лясы таму, што насеннем яловых шышак яны харчуюцца ўсе зімовыя месяцы.

І калі гнуцца пад цяжарам шышак галіны пахучых махнатых ёлак, то там-жа, куды прыляцелі клесты, спыняюцца і вандроўныя белкі.

Не знаходзячы корму, белкі перасяляюцца часам у другія раёны цэлымі полчышчамі. Аб такім перасяленні расказваў нам заалог Наумаў. Сотні і тысячы белак пакідалі тады лясы Урала і вобласці Комі, дзе засушлівае лета прывяло да заўчаснага абсыпання яловага насення. Белкі перабіраліся ў лясы Паўночнага краю. Іх можна было сустрэць у вялікай колькасці на палях і нават на ўскраінах сёл. Яны смела пераплывалі шырокія, быстрыя рэкі і спыняліся ў багатых шышкамі лясах.

А ў лесе ўжо гаспадарылі стаі клестаў. Птушкі клапатліва абрывалі шышку за шышкай і, пакляваўшы з іх зярняты, кідалі на зямлю. Як-жа прыходзіцца белкам? Ці не аб'ядаюць іх клесты, прымушаючы зноў пакутваць ад бяскорміцы? Не, яды хапае на ўсіх. Адрываючы шышку, клест выклёўвае з яе толькі некалькі больш даступных зярнят, а потым кідае і бярэцца за новую.

Ад такой звычкі клестаў белкі толькі выйграюць. Гладкія шышкі на галінках ёлкі награваюцца сонцам і ўжо ў лютым месяцы пачынаюць уз'ярошваць сваю луску; зерняты высыпаюцца, а вецер разносіць іх у розныя бакі. Тады надыходзіць бяскорміца. А ў шышках, скінутых птушкамі на снег, луска не ўз'ярошваецца; з гэтых шышак зярняты не высыпаюцца, і таму белкі не пакутуюць ад бяскорміцы. Не бяда, калі зямлю пакрыюць гурбы снега: белка вельмі добра чуе шышку нават пад тоўстым слоем снега, а раскапаць яго зусім няцяжка.

Значыць, белка і клест—не ворагі. Значыць, птушкі выратоўваюць белак ад веснавой бяскорміцы.

А калі пушысты гэты звярок падбірае шышкі з зямлі, яго лягчэй па сляду знаходзіць сабака. Паляўнічыя поўначы вельмі добра ведаюць, што белка-нізоўка з'яўляецца іменна ў тых лясах, куды прылятае многа клестаў. І з любоўю пазіраюць яны на маленькую птушку: яна дапамагае ім у паляванні.





# Мухамор





МАКСІМ ТАНК

Рысункі К. ГЕДДА



Баб'ім летам да зары,
у зялёным гушчары,
дзе мох сцелецца рабы,
паспрачаліся грыбы.

На ўвесь лес, зялёны бор,
расхваліўся Мухамор,
што пад шапкай—маку цвет—
ён дзяцюк на цэлы свет.

Боты, гузікі гараць,—
яму дзеўкі не дабраць
ў цэлым лесе пад сасной
ні багацтвам, ні красой.

Мог-бы смела быць паслом,
або нават і царом,—
не сядзець век у траве
ды разумнай галаве!—

—Ты хваліцца лепей кінь!—
яму радзілі Рыжкі,—
плёткі чуючы твае,
Падасінавік злуе.

На чырвоны твой язык
скасцюрыўся Чашчавік.

Табе ўсыпяць пад бакі
калі-небудзь Казлякі...

—Мне начхаць на вас, на бор!—
горда кажа Мухамор,—
калі біцца—паглядзім,
хто паставіць на сваім!—



А залёгшы у траве
ўсё падслухаў Муравей;
там, дзе мох і дзераза,
Сыраежцы расказаў.

Ды ў зялёным у бары
гэта чулі камары,—
яны вестку разняслі
ўсім Апенькам на зямлі.
А Ваўнянкам у паўдні
раззванілі Авадні...
Болей, як вясной у жаб,
было гутарак у баб.



Аж прачнуўся на той крык
пад яленцам Баравік,
дзе пад мохам, як парсюк,
глуха спаў, як цэцярук.
І пачаў ён развадзіць,
мудра радзіць і судзіць,
расшумеўшыся між траў,
нават голаву падняў...
Дзе мох сцелецца рабы,
ішлі дзеці па грыбы,—
асцярожная рука
падняла Баравіка.
Пайшлі ў кошык Казлякі,
Сыраежкі і Рыжкі...



Хахаталі дзеці, бор,
хахатаў і Мухамор.
І паказываў, крычаў,
дзе схаваліся між траў,
Падасінавік стары,
дзве Ваўняначкі—сястры...
Як пакінулі ўсе лес
у вячэрняй у імгле,
шышкай галаву падпёр—
затужыў і Мухамор.
Што не весела яму
ў цёмным лесе аднаму,
ў цёмным лесе ў бары
няма з кім пагаварыць.
На'т смяюцца ў паўдні
з Мухамора Авадні;
а зара як дагарыць,
усё звоняць камары
ад сасны і да сасны,
што ёсць грыб—благі, дурны.
Мухамор, эх, Мухамор!.
Эх, сасновы цёмны бор!



## ЧАМУ НЕЛЬГА КАТАЦЦА НА КАНЬКАХ ПА ПАДЛОЗЕ

Адзін хлопчык, у якога запыталіся, чаму нельга катацца на каньках па падлозе, адказаў:

— Таму, што лёд—слізкі і вельмі цвёрды, а падлога не гэткая цвёрдая і не слізкая.

Але бывае і каменная падлога: яна слізкая і цвёрдая, а катацца на каменнай падлозе ўсё-ж такі нельга.

Калі мы катаемся па лёду, лёд пад ціскам канькоў растае. Паміж канькамі і лёдам утвараецца слой вады. Каб не было гэтага слою вады, катацца па лёду было-б таксама цяжка, як і па падлозе. Вада, нібы масла ў машыне, змяншае трэнне паміж каньком і лёдам.

## ШЛЯХ ЖУКА

Каля дарогі ляжыць цёсаны гранітны камень. Даўжыня яго—30 сантыметраў, вышыня—20сантыметраў і такая-ж шырыня. У пункце „А“ сядзіць жук, які самым кароткім шляхам збіраецца трапіць у вугал „В“.

Як пралягае гэты кароткі шлях?




## ДА ПАЛАВІНЫ

У адкрытай бочцы наліта вада,—навока нібы да палавіны. Але вы хочаце ведаць дакладна, ці да палавіны наліта ў ёй вады, больш палавіны або менш палавіны. У вас няма ні палкі і наогул ніякай прылады для вымеру бочкі. Шпунта бочка не мае. Якім-жа чынам можна ўпэўніцца, ці роўна да палавіны наліта вада?



## ЗАДАЧА ГАУСА

Аднойчы настаўнік рашыў даць вучням такую цяжкую задачу, на рашэнне якой яны патрацілі-б многа часу. Ён прапанаваў вучням скласці ўсе лікі, пачынаючы з 1 і канчаючы лікам 100, і ўказаць суму.

У гэтым класе вучыўся Гаус, будучы вядомы матэматык. Не паспеў настаўнік растлумачыць задачу, як маленькі Гаус падняў ужо руку.

Настаўнік раззлаваўся: ён думаў, што хлопчык проста балуецца, і пачаў крычаць на яго. Тады Гаус паказаў адказ. Настаўнік быў здзіўлен. Ён спытаў Гауса, як ён рашыў так хутка такую цяжкую задачу.

— Вельмі проста,—адказаў Гаус,—я зразумеў, што калі складваць 1+100, 2+99, 3+98 і г. д. то атрымаецца 50 раз па 101.

Хутка разабраўшыся ў гэтым, Гаус памножыў 101 на 50 і атрымаў правільны рэзультат: 5050.

Рэдактар А. БЯРОЗКІН Афармленне М. СВЯЦКАГА Адрас рэдакцыі: МІНСК, ДОМ ДРУКУ.

Друкарня імя Сталіна, Мінск. 20.000 экз. Зак. № 2008. 2½ друк. арк. Уп. Галоўліта БССР № 49.

# Нечаканы канец

Цана 30 кап.



Йшла машына раз без груза,

Зачапіўся ён за кузаў.



„Што за спрыт? Я даганю!"—

Сіма ўслед крычыць яму...



Гэтакі народ вясёлы,

Пахапаліся за полы.



„Ну, трымайся, брат Кандрат,

Будзем ехаць ўсе падрад!"



Паварот. Даў шофер газ..

Разляцеліся ураз.



Рукі, твар паразбівалі...

У карэту ўсіх забралі.